# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

**№ 36** (2282) 3 верасня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).


## *УСЕ МЫ — НАРОД БЕЛАРУСІ*



**Так ужо сталася, што адны і тыя ж даты мы адзначаем цяпер кожны ў сваім куце, бо ў кожнага да іх сваё стаўленне. А ўсё таму, што грамадства наша падзялілася на камуністаў і дэмакратаў. І ўжо сысціся ім разам—цераз сябе пераступіць. Таму і адзначалі сёлета 25 жніўня—дзень, у які год назад, пасля маскоўскага путчу, быў нададзены канстытуцыйны статус Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі, камуністы і дэмакраты на розных трыбунах сталіцы.**

**У камуністаў гэта быў партыйны сход пад чырвонымі сцягамі ў парку Горкага, у дэмакратаў—мітынг на плошчы Незалежнасці, вядома ж,—пад нацыянальным бел-чырвона-белым штандарам. Камуністаў было значна менш, і па ўзроставай катэгорыі гэта былі людзі старэйшыя векам, у той час як дэмакраты згуртавалі і старых, і юных, але пераважалі там людзі ў самым росквіце сіл.**

**Яшчэ дзве адметнасці. На партыйным сходзе распаўсюджваліся творы Леніна, бясплатна. На плошчы Незалежнасці ішоў бойкі гандаль: прадавалі кніжку лідэра БНФ Зянона Пазьняка, кажуць, па 50 рублёў за экземпляр.**

**На гэтым, бадай што, адрозненні канчаюцца, і пачынаецца тая парадаксальная сітуацыя, калі крайнасці сыходзяцца. А сышліся ўдзельнікі партыйнага сходу і мітынгу апазіцыйных сіл на тым, што і тыя, і другія дружна «таўклі» ўрад. Прычын для гэтага сёння больш чым дастаткова — сацыяльна-эканамічная сітуацыя такая, што яшчэ пара крокаў, і скажам: «Дайшлі да ручкі!» Усім нам: і камуністам, і дэмакратам—сёння жывецца не соладка. І кожны з нас хацеў бы, каб хутчэй настала якая палёгка. Хоць самая малая. Але кожны бачыць сваё святло ў канцы змрочнага тунеля. Для дэмакратаў гэта — толькі рэферэндум, для прыхільнікаў камуністычнай ідэі—вяртанне да планавай гаспадаркі, да многага, што было ў «старыя добрыя часы».**

**І зноў прыходзіш да сумных высноў: дзве грамадскія сілы, дзве палітычныя плыні, якія, відаць, так і не сальюцца ў адным рэчышчы, якія яшчэ доўга будуць супрацьстаяць адна адной.**

**А народ жа адзін! Асуджаны Чарнобылем, кінуты на волю лёсу безадказнымі палітыкамі, пасвараны ўжо не толькі ідэалогіяй, а і верай, канфесійнай прыналежнасцю. Між іншым, гэта ў сталіцы «витийствуют», а народ у глыбіні Беларусі, сцяўшы зубы, цягне сваё ярмо. Цяпер ужо—посткамуністычнае, але ад гэтага яму не лягчэй.**

**Ян ГІЛУЦЭВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: партыйны сход камуністаў у парку Горкага; мітынг на плошчы Незалежнасці.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**




**19—20 жніўня ў Маладзечне адбылася Міжнародная навуковая канферэнцыя «Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў». Арганізавалі яе Беларускі дзяржаўны універсітэт, Маладзечанскі гарвыканком, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Міністэрства адукацыі рэспублікі, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Скарыны.**

**У рабоце канферэнцыі прынялі ўдзел вядомыя вучоныя як з краю, так і з замежжа—Польшчы, Аўстрыі, Германіі, Англіі, ЗША.**

### *З МІЖНАРОДНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ*

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ САМАСВЯДОМАСЦЬ: КАМУ ГЭТА ТРЭБА?

**...Праз млосны сон**  
**і нерухомасць**  
**Ты ажываеш спакваля,**  
**нібы вясновая ралля, —**  
**нацыянальная свядомасць.**

Журналісты ўвогуле не любяць пісаць пра навуковыя канферэнцыі. Яно і зразумела: даклады, даклады, даклады. Паспрабуй, перакажы чытачу хаця б асноўны іх змест, і той засне ад суму, не вытрымае. Аднак нядаўна прайшоўшая ў Маладзечне Міжнародная канферэнцыя па тэме «Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў» прыцягнула немалую ўвагу і прэсы, і грамадскасці. І нездарма: наспеў час прааналізаваць тую унікальную сітуацыю, у якой апынуліся грамадзяне незалежнай цяпер Беларусі, дзе большасць не валодае роднай мовай (вынікі сацыялагічнага апытання сведчаць, што ў сталіцы на ёй гавораць не больш 2 працэнтаў насельніцтва), не ведае сваёй гісторыі, нацыянальных герояў, песень і танцаў (хаця мае найбагацейшую духоўную і матэрыяльную спадчыну). Больш таго. даволі індыферэнтна ставіцца да праводзімай дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі.

Сітуацыя і сапраўды надзвычай сур'ёзная і не можа не выклікаць трывогі. Асабліва, калі даведваешся, што пасля абвяшчэння суверэнітэту працэс дэнацыяналізацыі народа не толькі не затухае, але і ўзмацняецца. «Наш суверэнітэт трымаецца на няўстойлівым фундаменце, якім з'яўляецца нацыянальная самасвядомасць», — адзначыў у сваім дакладзе на канферэнцыі А. Мальдзіс. А між тым, па заключэнню вучоных, свядомасць народа адкінута на ўзровень XIX—XVIII стагоддзяў, калі жыхары гэтай зямлі лічылі сябе «тутэйшымі». Міжволі задаешся гамлетаўскім пытаннем: быць ці не быць?

Грамадзяне цяперашняй Беларусі, хаця і ведаюць, што яны беларусы, тым не менш, як бязродныя дзеці, сарамліва апускаюць вочы, калі гаворка ідзе пра нацыянальную гордасць і годнасць, пачуццё патрыятызму. «Лепш ужо прамаўчу, — думае традыцыйна беларус, — а то яшчэ горш будзе альбо нацыяналістам назавуць».

Вынішчэнне гістарычнай памяці са свядомасці беларуса ажыццяўлялася на працягу стагоддзяў самымі рознымі сродкамі. Савецкая ўлада, дэкларатыўна абвясціўшы права нацый на самавызначэнне, не толькі не паспрыяла беларусам стаць на ногі, але амаль канчаткова давяла да ўпадку беларускі дух. Нацыянальная свядомасць беларусаў — з'ява няпростая, абумоўленая шэрагам гістарычных момантаў, а таксама і складаным этнічным паходжаннем, рэлігійнай самаідэнтыфікацыяй. Грунтоўныя даклады на гэтыя тэмы, паведамленні і дыскусіі былі наладжаны на канферэнцыі па трох секцыях — «Вопыт гісторыі», «Шляхі адра-

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

ЗЯМЛЯК ВЫСОКАГА РАНГУ

Беларусь з рабочым візітам наведаў міністр замежных спраў Ізраіля Шыман Перэс. Як адзначае прэса, гэта быў першы ў гісторыі зносін нашых дзяржаў выпадак, калі ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь пабываў член ізраільскага ўрада.

Акрамя высокіх сустрэч на ўрадавым узроўні, на якіх абмяркоўваліся праблемы двухбаковых адносін, Шыман Перэс меў і іншую мэту свайго прыезду ў Беларусь. Для яго наша зямля — радзіма, якую міністр пакінуў яшчэ падлеткам 58 гадоў назад.

Высокі госць з Ізраіля наведаў вёску Вішнева Валожынскага раёна, дзе ён нарадзіўся ў 1923 годзе. Прымаючы з рук гаспадароў каравай, Шыман Перэс сказаў, пакаштаваўшы яго:

— Імклівa пранесліся гады, усё перамянілася ў Вішневе, а смак хлеба застаўся ранейшым, родным. Я ўсё жыццё памятаю пах тутэйшага лесу і маленькую рэчку за сялом, водар жнівеньскіх яблык.



НА ЗДЫМКУ: Шыман ПЕРЭС у родным Вішневе.

НАША АДКАЗНАСЦЬ

## КАНФЕРЭНЦЫЯ ПАД МІНСКАМ

Як паведамілі ў аддзеле інфармацыі МЗС, міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка прыняў міжнароднага каардынатара па стварэнню Арганізацыі Аб'яднаных Нацый моладзі (ААНМ) Мар'ю Коайман (Нідэрланды)— члена аргкамітэта Міжнароднай канферэнцыі моладзі «Наша навакольнае асяроддзе—наша адказнасць», якая адбылася пад Мінскам.

Галандскі грамадскі дзеяч праінфармавала кіраўніка беларускага знешнепалітычнага ведамства аб выніках маладзёжнага форуму. Яго ўдзельнікі абмяркоўвалі прынятыя ў Рыо-дэ-Жанейра рашэнні канферэнцыі ААН па навакольнаму асяроддзю і развіццю.

ПРАЗ МЕСЯЦ

## ВЕРНУЦЦА НА РАДЗІМУ

У сувязі са складанай абстаноўкай на граніцах сярэднеазіяцкіх рэспублік (дзяржграніцах былога СССР), а таксама ўлічваючы, што беларускія ваеннаслужачыя, якія нясуць там службу, аказаліся або могуць аказацца ў зонах міжнацыянальных канфліктаў, спецыяльная група на чале з намеснікам міністра абароны Пятром Чаусам зрабіла рабочую паездку ва Узбекістан, Туркменістан і Таджыкістан з мэтай дэталёвага вывучэння сітуацыі. Вынікі паездкі былі абмеркаваны на нарадзе ў першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Вячаслава Кузняцова.

Для арганізацыі больш хуткага вываду беларускіх ваеннаслужачых з зон узброеных сутыкненняў і міжнацыянальных канфліктаў вырашана стварыць міжведамасную групу на чале з намеснікам начальніка ўпраўлення Савета Міністраў народным дэпутатам рэспублікі Валерыем Паўлавым. Групе даручана прыняць усе неабходныя меры для аператыўнага (на працягу месяца) вяртання грамадзян Беларусі, якія служаць у пагранвойсках на тэрыторыі сярэднеазіяцкіх рэспублік, на радзіму. Для работы ў кожнай з рэспублік будуць створаны асобныя падгрупы.

На нарадзе прынята рашэнне распрацаваць спецыяльную ўрадавую праграму па вяртанню ўсіх суайчыннікаў-ваеннаслужачых, якія выказалі жаданне вярнуцца ў Беларусь.

ЗАЯВА АПАЗІЦЫІ

## «ЦІ НЕ ЗАДОЎЖЫЛІСЯ КАНІКУЛЫ, КАЛЕГІ ДЭПУТАТЫ?»

Заяву пад такім назовам прыняла на сваім пасяджэнні парламенцкая апазіцыя БНФ. У ёй утрымліваецца заклік да народных дэпутатаў рэспублікі далучыцца да запатрабавання апазіцыі склікаць чарговую сесію Вярхоўнага Савета Беларусі 29 верасня.

На сесіі, гаворыцца ў заяве, неабходна: даць ацэнку росту дэфіцыту бюджэту і выкананню яго за першае паўгоддзе 1992 года, прыняць надзвычайны бюджэт на другое паўгоддзе; павысіць мінімальны ўзровень заработнай платы з улікам павышэння цэнаў; прыняць пакет законаў, патрэбных для нармальнага функцыяніравання эканомікі, забеспячэння эканамічных рэформаў; прыняць законы, накіраваныя на абарону інтарэсу дзяржавы і грамадзян Беларусі.

Акрамя таго, дэпутаты ад апазіцыі прапанавалі Старшыні Вярхоўнага Савета Станіславу Шушкевічу выкарыстаць дадзенае яму Канстытуцыяй права прызначыць сесію уласным рашэннем.

У САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ РБ

## АБ ВАЕННАЙ ПРЫСЯЗЕ

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанавіў згадзіцца з прапановай Міністэрства абароны аб прывядзенні 31 снежня 1992 года ўсяго асабовага саставу Узброеных Сіл да прысягі на вернасць Рэспубліцы Беларусь.

Прыём прысягі павінен ажыццяўляцца ў індывідуальным парадку.

Міністэрству абароны даручана распрацаваць новы тэкст ваеннай прысягі, праект палажэння аб парадку яе прыняцця.

ЗА ЛЕГАЛІЗАЦЫЮ

## 15-ГАДОВЫЯ МАЛАДАЖОНЫ

Працаўнікам ранніх шлюбаў, відаць, прыйдзецца змірыцца з тым, што маладажоны ў Беларусі будуць станавіцца ўсё маладзейшымі. Урадам рэспублікі сур'ёзна прапрацоўваецца пытанне аб магчымасці зніжэння ўзроставага цэнзу пры ўступленні ў шлюб да 15—16 гадоў. Звязана гэта з тым, што, нягледзячы на існуючыя юрыдычныя перашкоды, колькасць ранніх шлюбаў у рэспубліцы нязменна расце. І работнікам загсаў, хочаш не хочаш, а даводзіцца рэгістраваць шлюбы, калі жаніх і нявеста замест школьнай формы апранаюцца ў вясельныя ўборы.

Нечакана для многіх за легалізацыю шлюбаў паміж 15—16-гадовымі выказаліся медыкі. На думку спецыялістаў рэспубліканскага НДІ ахоўы мацярынства і дзяцінства, гэта дазволіць скараціць колькасць абортаў у дзяўчат, якія не дасягнулі «шлюбнага» ўзросту. І калі ўжо прыходзіцца выбіраць паміж раннімі шлюбамі і шматлікімі захворваннямі, звязанымі з абортамі, варта выбіраць меншае зло.

ВОСТРАЯ СІТУАЦЫЯ

Пасёлак Першамайскі калгаса «Зара» Буда-Кашалёўскага раёна — з неперспектыўных. Таму і пуставаў там доўгі час хлеў для калгаснай жывёлы. Працаваць у ім не было каму. Але знайшліся жадаючыя ўзяць на арэнду 112 кароў. Максім і Лідзія Аўяр'янавы з дапамогай дзяцей, унукаў справу наладзілі хутка, і ўжо праз год сярэднія надоі малака на карову склалі ў дзень 17,5 кілаграма. Такое становішча спраў не спадабалася загадчыцы жывёлагадоўчага комплексу Лідзіі Ляліхавай. Аб працістаянні арандатараў і чыноўнікаў расказваць можна было б доўга. У выніку ж— хлеў у Першамайскім зноў пустуе. Максім Макаравіч вярнуўся ў паляводчую брыгаду, Лідзія Цімафееўна займаецца хатняй гаспадаркай. Цяпер калгаснае і раённае начальства, што крыўдзіла Аўяр'янавых, ужо змянілася. Былыя арандатары зноў падумваюць, ці не заняцца фермерствам. Але пакуль стрымліваюць апасенні: ці не перашкодзіць хто-небудзь зноў самастойна гаспадарыць на зямлі.



НА ЗДЫМКУ: сям'я АЎЯР'ЯНАВЫХ побач з каровьнікам, які зарастае травой.

КРАДЗЯЖЫ

## ДЗЕ ШТО ЦЯГНУЦЬ

Згодна са статыстычнымі данымі аб крадзяжах у супермаркетах Бельгіі, найбольшай «папулярнасцю» карыстаюцца парфюмерныя вырабы, жаночае адзенне, цыгарэты і прадукты. Найбольшы працэнт затрыманых прыпадае на маладых людзей ва ўзросце ад 15 да 25 гадоў.

У нас з прамысловых тавараў асаблівым «попытам» карыстаецца дарослы і дзіцячы абутак. Напрыклад, у ГУМе за першае паўгоддзе 1992 года яго знікла прыкладна 130 пар. На другім месцы — дзіцячае адзенне: 75 адзінак розных назваў недалічыліся работнікі універмага. На жаночым і мужчынскім адзенні, адпаведна — 71 і 48. З прадуктовых тавараў з прылаўкаў часцей за ўсё знікаюць алкагольныя і безалкагольныя напіткі. Як паведамілі ва універсаме «Юбілейны», за першае паўгоддзе было ўкрадзена больш за 60 бутэлек. На ганаровым другім месцы — прадукты харчавання, пачынаючы з кансерваў і канчаючы каўбасой. Пшанічныя і ячменныя брыкеты, што карыстаюцца папулярнасцю ў падрастаючага пакалення, — трэція. Страты іх ва універсаме ацэньваюцца прыкладна ў 40 пачак. Часцей за іншых за крадзяжы затрымліваліся падлеткі да 15 гадоў і пажылыя людзі, якім за 60.

ШТО ДЗЕЕЦЦА!

## АБРАБАВАЛІ ГЕРОЯ

Нядаўна было здзейснена разбойнае нападзенне на Героя Савецкага Саюза Марыю Осіпаву. Амаль пяцьдзесят гадоў назад мінская падпольшчыца прыняла актыўны ўдзел у знішчэнні намесніка Гітлера ў Беларусі В. Кубэ, за што ў кастрычніку 1943 года ёй было прысвоена званне Героя. І вось цяпер безабаронная жанчына стала ахвярай злачынства. Чацвёра маладых хлопцаў залезлі ў кватэру Осіпавай, адабралі самае дарагое, што ў яе ёсць,—баявыя ўзнагароды, у тым ліку і Залатую Зорку Героя.

РЭХА ВАЙНЫ

## У ЛЕСЕ ПАД КРУПКАМІ

На жаль, рэспубліка, на тэрыторыі якой апошнія залпы Вялікай Айчыннай адгрымелі амаль 50 гадоў назад, яшчэ не пакvirталася з вайной. Вось і нядаўна яна зноў нагадала аб сабе. На гэты раз—у Крупскім раёне Мінскай вобласці. Тут у лясным масіве агульнай плошчай 459 гектараў у раёне населеных пунктаў Бобр, Замкі, Стары Бобр знойдзена вялікая колькасць боепрыпасаў ваеннага часу.

Для іх размініравання ў адпаведнасці з даручэннем Старшыні Савета Міністраў рэспублікі В. Кебіча і дырэктывай начальніка штаба Міністэрства абароны генерал-маёра М. Чуркіна было сфарміравана спецыяльнае падраздзяленне. У выніку праведзеных работ, у якіх удзельнічала каля 140 чалавек—афіцэраў, прапаршчыкаў і ваеннаабавязаных запасу, абясшкоджана і знішчана 3 281 адзінка снарадаў, мін, гранат, а таксама 9 700 патронаў.

Асноўную частку «ваеннай спадчыны» складалі адзіночныя артылерыйскія снарады. Знойдзены таксама два штабелі 88-міліметровых артылерыйскіх снарадаў нямецкай вытворчасці. Складанасць сітуацыі заключалася ў тым, што некаторыя боепрыпасы знаходзіліся ў ствалах дрэў. Запатрабаванае нямала мужнасці і майстэрства, каб абясшкодзіць іх.

## А ЦІ ВЕДАЛІ ВЫ?

# «КРАІНА ЦЫГАНІЯ»

Чытаю славутую «Краіну Цыганію» Уладзіміра Караткевіча і ўсё не магу нацешыцца музыкай яго дзіўнай прозы, у якой апавядаецца пра мімалётнае захапленне беларускага хлопца цыганкай:

«Ах, Цыганія-Цыганія! Ах, і мая ж цыганская кроў! Індзейская ярасць у вачах, калі унь тая, з крыху адутлаватым тварам і доўгімі індзейскімі валасамі, крычыць нешта.

Я зноў сфатаграфаваў «белую». Іначай не мог. Такая была грацыя ў кожным руху. Тэатр! Балет! Чорт ведае што!

І дзіўна было побач з гэтым святам жыцця, увасобленым у гэтай дзяўчыне, бачыць пліту і надпіс на ёй:

РАПАНОВІЧ Гарась Іванавіч, 1928—1968

— Быў наш вярхоўны суддзя, — гаварыла яна чыста па-беларуску.

— Як гэта з ім?

— Вашу дзяўчынку ратаваў. Беларускую дзяўчынку. Наш цыган. Не ўратаваў».

Апавяданне «Краіна Цыганія» — гэта не толькі плод фантазіі беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча. Сапраўды, у Давыд-Гарадку знаходзіцца магіла вярхоўнага суддзі ўсіх цыган Базылевіча Гарася Ігнатавіча, і ён на самай справе загінуў у імклівых водах ракі Гарыні, ратуючы беларускую дзяўчынку-падлетка.

Відаць, заўсёды было на Беларусі: цыган ратаваў беларуса, той жа дапамагаў «фараонаву племені».

А ўсё-такі цікава, адкуль пайшлі цыганы, як яны аселі на тэрыторыі сучаснай Беларусі? Што аб гэтым кажуць назвы нашай рэспублікі? У Зэльвенскім раёне, дзе я нарадзіўся, ёсць вёска Цыганоўка. Пачаў разглядаць геаграфічную карту — побач з Баранавічамі, дзе цяпер жыву, — Ляхавіцкі раён, а ў ім населены пункт Цыганы. Дакладна такая ж назва вёскі і ў Гарадоцкім раёне. А яшчэ ёсць Цыганкі на Віцебшчыне. Адкуль жа пайшлі гэтыя найменні?

Праглядаю кнігі, часопісы, газеты і знаходжу, што гісторык Д. Даўгяла ў 1926 годзе пісаў: «...на тэрыторыі Беларусі знойдзеш досыць значную колькасць урочышч, рэк і вёсак з коранем «цыган»... Цыганкова ніва, Цыганоўская рэчка, Цыганоўскі ручай... Гэта мова зямлі сведчыць аб даўняй сувязі цыганоў з Беларуссю і служыць, са свайго боку, гістарычнай крыніцай».

Адкрываю кнігу Е. Друца і А. Геслер «Цыганы» — і мяне нанава пачынае зачароўваць дзівосны свет гэтага народа: «Стагоддзі мінулі з тых пор, як, уцягнутыя незразумелай сілай, пакінулі сваю старажытную радзіму і разбрыліся па свеце чорнавалосыя, смуглатварыя людзі — цыганы. Яны прайшлі цераз дзесяткі краін, сутыкаліся з дзесяткамі народаў, перасяклі моры і акіяны, і цяпер наўрад ці адшукаеш дзяржаву, дзе б яны не пражывалі. Незвычайны вонкавы выгляд, незразумелая мова і спецыфічны спосаб жыцця — усё гэта рэзка вылучала цыганоў на фоне іншых народаў, ставіла ў адасобленае становішча. Акружаны арэолам загадкавасці, гэты народ доўгі час быў недаступны і для даследчыкаў, спрабаваўшых яго вывучаць».

Англічане завуць цыганоў егіпцянамі, іспанцы — гітанас, французы — багемцамі, ці яшчэ цыганамі, галандцы — паганцы (хейдэнс), угорцы — фараонава племя, ці яшчэ цыганы, фіны — чорныя... У Беларускай Савецкай Энцыклапедыі вы не знойдзеце слова «цыган» і нічога не прачытаеце пра беларускіх цыганоў...

У сучаснай навуцы канчаткова ўсталяваўся пункт погляду, згодна з якім цыганы (саманазва — рома) — выхадцы з Індыі, продкі якіх пакінулі сваё месца пастаяннага пражывання ў канцы першага тысячагоддзя.

Татары і жыды (яўрэі, ці яшчэ гябрэі) пасяліліся на Беларусі ў XIV стагоддзі і адразу знайшлі прыхільнасць дзяржаўных уладаў таго часу. Цыганы прыйшлі ўслед за імі. У XV стагоддзі яны ўжо сталі прыкметнымі тут і пачалі праяўляць свае адметнасці і здольнасці. І калі ў іншых краінах да гэтага народа ставіліся жорстка і не па-людску, прымяняючы суровае заканадаўства, калі ў іншых краінах былі масавыя ганенні, цкавалі, гвалтавалі і забівалі цыганоў, то ў Беларусі гэтага не было. Болей гуманных адносін да іх, чым на нашай зямлі, не існавала нідзе. Аб гэтым расказвае ўся гісторыя нашага народа.

Тут да месца прывесці адзін з актаў вялікага князя літоўскага Аляксандра, датаваны 1501 годам, у якім гаворыцца аб «даўніх правах» цыганоў на Беларусі.

Чым займаліся цыганы (найменне іх паходзіць ці то ад слоў «ацінганас», «ацінгані», што абазначаюць назву адной з ранніх хрысціянскіх сектаў, ці то ад слова «атсінганас», якое перакладаецца як «прадказальнікі лёсаў») у той час на нашых землях? Мы не будзем гаварыць аб тым, што яны качавалі. Што ёсць у гэтага народа, таго не аднімеце. Цыганы былі цудоўнымі знаўцамі і аматарамі коней. Шкада, што ў апошні час конь у нас становіцца рэдкім дзівам. А калісьці кірмашы Зэльвы, Міра, Свіслачы, Менска, Клецка і некаторых іншых гарадоў і мястэчак былі напоўнены вялізнымі табунамі коней, іржаннем жарабцоў, говарам цыганоў, іх танцамі і песнямі...

Вось што піша Д. Чорны ў сваёй кнізе «Клецк»: «Базарным днём у Клецку лічыўся панядзелак. У гэты дзень з'язджалася ад 5 да 7 тысяч чалавек. Продаж свойскай жывёлы праводзіўся ў пятніцу. Асабліва цікава праходзіў гандаль коньмі. Найбольшымі аматарамі гэтай справы былі цыганы, што, безумоўна, прыдавала базару асаблівы каларыт. Часам купля-продаж ператваралася ў пацешнае спаборніцтва. Каня запрагалі ў воз, у задняе кола ўстаўлялі кол, каб было цяжэй цягнуць, на воз узбіраліся чалавек 5—6, і каня бязлітасна паганялі. Гэтым правяралі нораў, сілу і здольнасць каня да працы. Такімі кірмашамі Клецк славіўся аж з XVII стагоддзя. Яны праводзіліся штогод на дзесятым тыдні пасля Вялікадня».

А якія майстры цыганы ў вырабе конскай збруі! Яе не грэбавалі купляць буйнейшыя магнаты Беларусі, Літвы, Украіны, Польшчы...

Калі мне прыходзіцца бываць у славутым Крошыне, слухаць апавяданні аб Паўлюку Багрыму, то мне здаецца, што ў гэтага самага загадкавага, самага легендарнага, самага таямнічага паэта-самародка, мастака-каваля змяшалася і беларуская, і татарская, і цы-

(Заканчэнне на 4-й стар.).

## З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ










**Калі я трапляю на вакзал, мне заўсёды ўспамінаецца герой старога анекдота, які, паглядзеўшы на гэтую таўкатню, схапіўся за галаву: «Ну я ў камандзіроўку еду, а яны ўсе куды!» А сапраўды, куды сёння можна ехаць у нашым змарраваным і пашматаным, прабачце, СНД! У адпачынак на поўдзень! Ды з Сухумі адпачываючых эвакуіруюць ваеннымі самалётамі. На поўнач, у Прыбалтыку! Дык туды без долараў лепш не соваццa, ды й з дня на дзень візу патрабаваць пачнуць. На Каўказе страляюць, у Варонежы грыбамі труцяцца, у роднай Беларусі — радыяцыя, а на Украіне, на гора адпачываючым і прыезджым, ніяк не могуць разабрацца з купонамі і рублямі... І нават калі вы ўсё ж знайшлі больш-менш спакойнае месца і ўжо склалі чамаданы, няма ніякай гарантыі, што за час, пакуль вы будзеце ў дарозе, у гэтым ціхім гарадку не пачнецца рэвалюцыя ці не адбудзецца путч мясцовага значэння. «Над нашей родиною дым...» — як пяецца ў папулярнай песні мінулых гадоў. Дома, дома сядзець і радавацца, што ціха тут, і добра, і спакойна, а яны едуць і не баяцца, што расце злачыннасць у цягніках і меншае бяспека нашых чыгунак... І перапоўнены вакзал у любы час сутак, і выстойваюць людзі ў бясконцых чэргах за білетамі, крычаць, спяшаюцца і дрэмлюць на чамаданах ад'язджаючыя, і цалуюцца, пазнаюць, хвалююцца тыя, хто сустракае...**

**Божа, ну я, зразумела, у камандзіроўку, а яны ўсе — куды!**

**В. ЧАРКАСАВА.**

**Фота зроблена на Мінскім цэнтральным чыгуначным вакзале фотакарэспандэнтам «Голасу Радзімы» Віктарам СТАВЕРАМ.**

*СТАРОНКІ МІНУЛАГА*

# ВЫСТАЎКА Ў МАГІЛЁВЕ

**адбылася ў 1896 годзе, і называлася яна «Сельскагаспадарчая і саматужна - прамысловая выстаўка», якая паказала, што прадпрымальнікі Беларусі ў адзіночку нічога не могуць зрабіць. Таму яны, няхай гэта будзе граф Паскевіч з Гомеля ці купцы з Быхаўскага павета, аб'ядноўваючы свае капіталы, намаганні і магчымасці, разам вяршылі справы на дабрабыт Айчыны.**

Час першых публічных выставак у Расіі адносіцца да першай паловы мінулага стагоддзя. У 1829 годзе ў Санкт - Пецярбургу прайшла першая выстаўка расійскіх мануфактурных вырабаў, праз чатыры гады Масква правяла другую. З 1848 года Усерасійскія прамысловыя выстаўкі праводзіліся раз у чатыры гады, папераменна ў Маскве, Пецярбургу і Варшаве. І ў кожнай актыўна ўдзельнічалі мануфактуры, фабрыкі і прадпрыемствы ўсіх губерняў Беларусі. Вырабы 38 з іх адзначаліся медалямі рознай вартасці, а прадпрыемствы атрымалі права ставіць на іх расійскі герб, як напрыклад, на паперы Добрушскай акцыянернай папяровай фабрыкі графа Паскевіча.

У ліку іншых беларускіх мануфактур у выстаўцы 1829 года ўдзельнічала Грудзінаўская суконная мануфактура, якая не адно дзесяцігоддзе існавала ў вёсцы Грудзінава Быхаўскага павета (цяпер цэнтральная сядзіба аднайменнага саўгаса Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці). Яе прадукцыя была адзначана Вялікім сярэбраным медалём «за добрыя і сходныя па цане сукны».

Не раз на выстаўках дэманстравалася прадукцыя Смятанкавай крупяной фабрыкі, якая размяшчалася ў маёнтку Любініцкага павета (цяпер у складзе Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці). На адной з Усерасійскіх прамыслова-мастацкіх выставак прадстаўленыя ўзоры круп былі ўзнагароджаны сярэбраным медалём, асобна былі адзначаны ячныя крупы высокай якасці.

Магілёўскае таварыства сельскай гаспадаркі, скарыстоўваючы багаты вопыт выставак у Расіі, арганізавала і правяло сваю. Дастойным яе спонсарам, гаворачы мовай сённяшніх дзелавых людзей, у 1896 годзе ў Магілёве выступіла Міністэрства фінансаў, ад імя якога ўзнагароджваліся самыя лепшыя вырабы. І сярод іх — усе магілёўскія прадпрыемствы, што прымалі ўдзел у выстаўцы.

Горад на Дняпры адышоў да Расіі пасля 1772 года. Эканамічнае развіццё Магілёва пайшло паскоранымі тэмпамі: пашыраўся гандаль, павялічылася колькасць насельніцтва. У 1778 годзе быў складзены першы генеральны план Магілёва, а ў 1780 годзе горад наведала Кацярына Другая. У яе свіце быў і граф Пацёмкін, які незадоўга да гэтага атрымаў ад імператрыцы ў дар Крычаўскае староства з усімі жыхарамі і землямі.

Руская імператрыца прыбыла ў Магілёў, каб агледзець далучаныя да Расіі беларускія землі. Горад з 40-тысячным насельніцтвам цікавіў Кацярыну Другую галоўным чынам тым, што меў па тым часе разгалінаваную прамысловасць. У ліку трыццаці яго прадпрыемстваў было 22 гарбарныя, 7 піваварных заводаў. Магілёў быў цэнтрам рамеснай вытворчасці, перш за ўсё па апрацоўцы металу, дрэва, выпуску вырабаў з гліны. У 1780 годзе ў горадзе працавала 750 майстэрань рамеснікаў, каля 500 купцоў займаліся гандлем. Гадавы абарот толькі з гарадамі Прыбалтыкі складаў 200 000 рублёў.

У Магілёве вёўся ажыўлены гандаль хлебам, салам, мясам, ляснымі таварамі. Горад быў цесна звязаны з Падняпроўем, Оршай, гарадамі Віцебскага эканамічнага раёна, адкуль дастаўлялася нямала разнастайных тавараў.

У Магілёўскай губерні канцэнтраваліся тэкстыльныя мануфактуры, галоўным чынам пянькова - льняныя, канатна - вяровачныя, рагожныя — да 1900 года тут было сканцэнтравана да 56 працэнтаў усіх беларускіх мануфактур, працавала 950 майстэрань кавалёў. Толькі ў адным Бабруйскім павеце 160 рамеснікаў выраблялі сельскагаспадарчыя прылады самага рознага прызначэння. Так што факты дазваляюць зрабіць адназначны вывад: правядзенне выстаўкі 1896 года менавіта ў Магілёве было цалкам лагічным.

Выстаўка ў Магілёве сабрала мноства розных прадпрыемстваў, а гарадскія былі прадстаўлены прадукцыяй харчовай прамысловасці і вырабамі хатняга ўжытку. Многія з іх былі адзначаны медалямі.

Незадоўга да адкрыцця выстаўкі ў горадзе з'явілася кандытарскае дваранскае прадпрыемства, на якім працавала ўсяго 30 чалавек. Яны выраблялі піражныя, цукеркі, варэнні, ягадныя сокі, кансервы з фруктаў. Сыравіны Магілёў меў у дастатку. Паводле даных Энцыклапедычнага слоўніка Бракгаўза і Эфрона, у горадзе агародамі было занята 300, а садамі — каля 100 дзесяцін зямлі. Ураджай перапрацоўваўся не толькі на месцы, але і вывозіўся ў Смаленск, Маскву, Віцебск, Пскоў.

Пры падвядзенні вынікаў работы выстаўкі 1896 года Міністэрства фінансаў узнагародзіла бронзавым медалём прадукцыю, якую выпускала кандытарскае дваранскае прадпрыемства. Такой жа ўзнагародай за высокую якасць вэнджаніны і каўбас усіх сартоў было адзначана Магілёўскае каўбаснае мяшчанскае прадпрыемства.

Цяпер няма магчымасці назваць дакладную дату арганізацыі Магілёўскага фарфоравага дваранскага прадпрыемства, чые талеркі і сподачкі з мастацкім роспісам карысталіся вялікім попытам. Прадстаўленыя на выстаўцы ўзоры яго прадукцыі былі таксама ўзнагароджаным бронзавым медалём. Больш прэстыжную ўзнагароду — малы сярэбраны медаль — атрымала кафля з гладкім жывапісам і металічнымі ўстаўкамі, што выпускаць сталі на Копыскай купецкай кафельнай фабрыцы, якая працавала з 1896 па 1914 год. Другое падобнае прадпрыемства — купецкая фабрыка паліраванай кафлі — было ўзнагароджана бронзавым медалём. І першая з названых фабрык, і другая размяшчаліся ў адным мястэчку Копысь (цяпер — гарадскі пасёлак у Аршанскім раёне Віцебскай вобласці Рэспублікі Беларусь).

Сельскагаспадарчая і саматужна - прамысловая выстаўка 1896 года была прыкметнай з'явай грамадскага жыцця. Поспех выстаўкі ў Магілёве даказаў, што ў губернях Беларусі ўмеюць рабіць тавар, прадэманстраваць яго спажыўцам, пакупнікам.

Адраджэнне традыцый мінулага пачалі дзелавыя людзі Магілёва, стварыўшы летась універсальную біржу. У чэрвені менавіта ў абласным цэнтры былі праведзены першыя таргі Магілёўскай універсальнай біржы. За пяць дзён работы 51 здзелка дала пяць мільёнаў 800 тысяч рублёў, прымусіла звярнуць увагу на прыватнае прадпрымальніцтва.

Але ці дасягнуць яны былой славы продкаў? Пакуль што такога ўмення гаспадарыць няма: і людзі не тыя, і час іншы.

**Мікалай САЛАЎЁЎ.**

# «КРАІНА ЦЫГАНІЯ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

ганская кроў. Выкаваны ім дзіва-твор мастацтва — жырандоль (кандэлябр), якая ўпрыгожвае тамашні касцёл, гаворыць аб прасторы стэпаў, аб самім цыганскім жыцці, а калі пільна ўгледзішся ў яе, то здаецца, што вось загамоніць, запяе метал, а жаўрукі, выкаваныя ім, вось-вось узляцяць у паднябессе, а бутоны кветак распусцяцца прыгожымі фарбамі. Гэта пра Паўлюка Багрыма напісаў свой палымяны верш Уладзімір Караткевіч:

**Мог бы славай грымець**
**Сярод годных паэтаў**
**Еўропы, —**
**Гвалтам спуталі ногі,**
**Трымалі ўвесь час за руку.**
**Што пакіне ён!**
**Вершык у памяці хлопцаў**
**Кандэлябру ў касцёле**
**Ды кроў на гарачым пяску.**

З выдатнейшых беларускіх людзей, у якіх цячэ кроў дзяцей ветру, і наш Адам Русак з Капыльшчыны, аўтар славутай песні з такімі словамі:

**Бывайце здаровы,**
**Жывіце багата,**
**А мы ад'язджаем**
**Дадому, дахаты.**

Як вядома, дзесьці ў сярэдзіне мінулага стагоддзя захапіла ў палон сэрца дзеда А. Русака — Сямёна маладая цыганка, ды так моцна, што гэтае каханне абрасло столькімі легендамі, што ўжо адзначана ў шмат якіх кнігах. На радасць, на шчасце нарадзіла чорнавалосая прыгажуня жонка Сямёна Русака аж чатырох сыноў. Ад аднаго з іх — Герасіма Сямёнавіча прыйшоў і ўпрыгожыў беларускі люд Адам Русак.

Цыганы лічыліся адметнымі кавалямі. Замкі, падковы, ланцугі, плугі, бароны, сцізорыкі, косы-літоўкі, зробленыя чорнавалосымі і смуглатварымі кавалямі, на базарах і кірмашах разыходзіліся імгненна.

А яшчэ яны ўмелі рабіць незвычайна прыгожы драўляны посуд, узорны, з упляценнем у яго карункаў з металу. У мястэчку Парэчча пад Гродам у адным з дамоў мне паказвалі драўляную сальніцу. Як гаварыў гаспадар дому, зрабілі яе цыганы, а гэтай яго сальніцы, зноў жа па яго словах, было болей за сто гадоў. Дзіцячыя драўляныя цацкі, дзяжы, бочкі і бочачкі, верацёны і самапрадкі, лыжкі і драўляныя міскі — усё гэта было падуладна спраўным рукам «атсінганас».

Цыганы плялі кошыкі, рабілі лапці, выраблялі рагожы, былі адмысловымі лудзільшчыкамі, прадказвалі людзям лёс, загаворвалі хваробы і лячылі травамі...

Таму і прыжыліся моцна цыганы на Беларусі, сваімі песнямі, танцамі, рамёствамі яны зрабілі жыццё нашага народа больш каларытным, разнастайным. Адсюль яны потым пайшлі ў Расію...

А яшчэ беларускія цыганы былі самымі адмысловымі дрэсіроўшчыкамі жывёл. У навуцы мядзведзяў сваім майстэрствам яны перасягнулі ўсіх іншых дрэсіроўшчыкаў. Таму і прагрымела на ўвесь свет сваім мастацтвам славутая «мядзведжая акадэмія», што калісьці была ў Смаргонях. Усю навуку і догляд за мядзведзямі тут рабілі цыганы. Вось успаміны аднаго з відавочцаў: «Там быў такі вялізны склеп каменны: на вокнах рашоткі, унутры карыты для ежы і салома для сну. Ён быў прызначаны для знаходжання ў ім жывёл у вольны ад вучобы час. Тыя, хто аддаваў туды мядзведзя на навуку, дамаўляліся звычайна аб памяшканні, аб харчаванні і аб гувернёры для яго... Мы ўвайшлі ў вучэбную залу, дзе цыган вучыў мядзведзя падымацца пад гукі дудкі на заднія лапы. Гэта была вялікая хата, у якой замест падлогі была печ з кафлі, а пасярэдзіне — слуп, да якога на даўжэзным канаце быў прывязаны «вучань». Печ награвалі да чырвані. Заднія лапы мядзведзя абкручвалі анучамі і надзявалі лапці. Калі ўпускалі туды «вучня», ён, апякаючы пярэднія лапы, міжволі падымаўся на заднія. У гэты момант цыган пачынаў дудзець у дудку. Такім чынам мядзведзь прывучаўся і потым пад гукі дудкі заўсёды падымаўся на заднія лапы, баючыся, што пярэднім будзе горача».

Аднойчы мне давялося чуць, як цыган вывеў з вёскі пацукоў.

Як бачым, вартасцей у цыганоў болей, чым мы ведаем.

На Беларусі было дазволена ім выбіраць свайго караля. Першым з іх быў Якуб Знамяроўскі, які радзіў і судзіў шматлікія плямёны цыганоў на Беларусі, Літве, Украіне, Польшчы. Такую прывілею ім выдаў у 1780 годзе сам кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў-Аўгуст.

В. Хілімонаў у сваёй кнізе «Мірскія былі» (Мір — мястэчка у Карэліцкім раёне Гродзенскай вобласці) адзначае: «Аселымі ў Міры лічыліся і цыганы. Гэта была іх «сталіца» — на ўсё Вялікае княства Літоўскае. Цыганскія каралі вялі тут раскошнае жыццё, наладжвалі пышныя балі для сваіх «апекуноў» — нясвіжскіх магнатаў, у асобах якіх старажытнае племя часам знаходзіла абаронцаў, бо нібыта прызнавалі адну і тую ж, каталіцкую веру. Дарэчы, апошні цыганскі кароль — нейкі Марцінкевіч, памёр у 1790 годзе. Пасля яго смерці мірскія цыганы пачалі раз'язджацца з гэтых мясцін, у большай частцы беручы накірунак і спыняючыся ў Бесарабіі і Малдавіі». Ці не продкаў гэтых цыганоў бачыў там А. С. Пушкін у часы сваёй ссылкі і ці не пра іх напісаў: «Цыгане шумною толпой по Бессарабии кочуют...»

Цікава прачытаць пра цыганоў і ў Уладзіслава Сыракомлі (Кандратовіча): «Коней тут кралі асабліва часта. У Міры калісьці жыў цыганскі кароль, які выязджаў са двара ў суправаджэнні атрада маладых коннікаў, аматараў зазірнуць у чужыя стайні». Гэтыя радкі ўзяты з кнігі «Падарожжы па маіх былых ваколіцах».

Судзіліся цыганы па сваіх даўніх звычаях. У судзе (па-цыганску — крыс), як правіла, прымалі ўдзел усе ад старога да малога, уключаючы жанчын. Такога дэмакратычнага суда і такога справядлівага, здаецца, няма і сёння сярод іншых народаў. Запісаў там не робяць, а разыходзяцца з яго усе амаль заўсёды задаволенымі.

Як правіла, на Беларусі цыганы мелі і маюць беларускія імя і прозвішча, хадзілі і ходзяць у адны і тыя ж храмы, што і мясцовае насельніцтва, хрысцяцца і хаваюць па хрысціянскіх абрадах, праўда, з некаторымі сваімі адценнямі.

У дзіцячым доме мястэчка Парэчча, дзе я выхоўваўся, былі і цыганяты. І сярод іх самая прыгожая, самая абаяльная — Сарачынская. У яе ўсе хлопцы былі закаханы. А выйшла яна пасля школы замуж за местачковага хлопца, і пасяліліся яны ля самай чыгункі, ля так званай Другой будкі. На апошняй сустрэчы дзетдомаўцаў, мне падалося, што болей шчаслівай пары, чым яны, няма ва ўсім белым свеце!

У вядомым рамане Вальтара Скота «Квенцін Дорвад» галоўны герой задае пытанне:

— Хто такія цыганы?

У адказ гучыць: «Ды яны ж паганцы, хлапец! Не то сарацыны, не то магаметане... Яны не прызнаюць ні Боскай мацеры, ні святых, крадуць усё, што пад руку пападзецца, а ў дадатак займаюцца вядзьмярствам і варожаць».

Прайшло столькі часу з дня апублікавання гэтага англійскага рамана, а нашы веды аб цыганах, на мой погляд, знаходзяцца ўсё на тым жа ўзроўні...

**Міхаіл МАЛІНОЎСКІ.**

Ул. СЫРАКОМЛЯ

# МІНСК

## МІНСК—ВАЯВОДСТВА. РОСТ І НЯШЧАСЦІ ГОРАДА



Але той жа Нясецкі ў іншым месцы сцвярджае, што маршалак літоўскі і віленскі кашталян Крыштаф Завіша (памёр у 1670 годзе) у касцёле мінскіх бернардзінцаў за вялікія грошы вымураваў капліцу, дзе і спачывае разам з сваім братам Андрэем і ягонымі сынамі — Янам-Казімірам і Юрыем.

Зводзячы да аднаго гэтыя спрэчныя паведамленні, магчыма дапусціць, што першае ахвяраванне мінскім бернардзінцам учынілі Ян і Андрэй Кансоўскія, пра якіх, як пра добрых людзей, успамінае Папроцкі. Крыштаф Завіша мог далучыцца да гэтых ахвяраванняў. А папоўніў іх Ян Кансоўскі.

Заслугоўвае занатавання ў хроніцы места напад жыдоў на царкву і манастыр св. апосталаў Пятра і Паўла 9 жніўня 1629 года падчас хрышчэння жыда Пінхасовіча, якога манахі павярнулі да ўсходняга абраду. Узрушаны натоўп у некалькі дзесяткаў жыдоў адною групаю кінуўся ў манастыр, а другою — уварваўся ў царкву, дзе ў прысутнасці шматлікага люду, шляхты і мяшчан адпраўлялася святая літургія. Напаўняючы крыкам святыню, галастра кінулася з нажамі на духоўных і свецкіх людзей, абражала і высмейвала хрысціянства, грозячы спаліць царкву. Але пара шабляў без цяжкасці выгнала з святыні і з цвінтара гэту набрыдзь.

Віхура рэлігійных разладаў, што на хвілю была сунялася, узнялася ў 1630 годзе, калі неуніяты наноў забралі перададзены уніі кляштар св. Мікалая. Вулічныя сутычкі і ўзаемнае прававанне не спыняліся. У наступным годзе, пасля смерці некалькіх сенатараў-уніятаў, мінскі магістрат склаўся ўжо з бургамістраў і лаўнікаў, настроеных супраць уніі. Уніятам было адмоўлена ў карыстанні магдэбургскім правам, на іх наклалі гарадскія падаткі большых памераў, забараніўшы апеляцыю да трона. Пакрыўджаныя уніяты кінуліся шукаць абароны ў Язэпа Веляміна Руцкага, свайго мітрапаліта, які аддаў пад каралеўскі суд увесь магістрат, чым, як можна здагадацца, дарэшты раздражніў узаемную варожасць двух веравызнанняў.

Уладзіслаў IV, у адрозненне ад бацькі, у пытаннях рэлігіі быў больш памяркоўны і талерантны. Пасля ўступлення на трон стараўся прыглушыць супярэчнасці, аддаўшы ўладам некалькі цэркваў для неуніятаў. Але супакаенне раз'ятранага самалюбства не магло стацца справаю аднае хвіліны. Крыштаф Валовіч (земскі пісар), прысланы Уладзіславам IV у Мінск для перадачы неуніятам царквы св. Тройцы, не быў дапушчаны да выканання свайго абавязку. Уніяцкі мітрапалітальны намеснік ксёндз Ігнат Шаковіч і пракуратар базыльянаў ксёндз Юзафат Бокей у атачэнні шляхты і натоўпу людзей падалі Валовічу паперу, у якой згадвалі каралю яго прысяжныя словы аб пактах канвентаў. Ігумен з манастыра св. Пятра Феафіл Заяц з вялікаю групаю шляхты і мяшчан, выказаўшы свае правы на царкву, вырашыў акружыць яе. Аднак уніяты гэтага не дапускалі. Былі знойдзены палашы. Пачалася расправа, паплыла кроў, і каралеўскі пасланец, баючыся далейшага яе праліцця, ад'ехаў без аніякіх вынікаў.

Праз два няпоўныя гады гэтыя хваляванні зноў узнавіліся, нават у прысутнасці мітрапаліта неуніятаў Пётры Магілы і галавы уніі Язэпа Веляміна Руцкага, якія з'ехаліся тут наўмысна ці выпадкова, невядома.

27 чэрвеня 1635 года ў другой палове дня, калі Руцкі ўрачыста ўязджаў у горад, а ўвесь каталіцкі і уніяцкі люд выйшаў яго сустрэць, манах з кляштару св. Пятра Э. Ількоўскі з узброеным натоўпам уварваўся ў кляштар базыльянаў, разрабаваў і знішчыў кватэру ксяндза Герасімовіча, шукаючы яго, каб даставіць да Пётры Магілы. 30 чэрвеня базыльяне занеслі ў магістрат пратэст супраць гэтага нашэсця і скаргу да мітрапаліта Магілы, але вынікаў гэтага не ведаем.

Да трона даходзілі трывожныя весткі пра такія сутычкі ў розных канцах Літвы. Нарэшце Уладзіслаў IV пастанавіў пакласці ім канец раздзелам цэркваў і парафій. З гэтаю мэтаю 18 ліпеня 1636 года ён прызначыў камісію, якая павінна была выканаць гэты падзел ва ўсіх літоўскіх гарадах, пачынаючы з Вільні. Ад кожнага боку дазваляліся апеляцыі на імя караля.

У сакавіку наступнага года кароль заклікаў уніяцкага мітрапаліта Міхала Корсака дзейнасці гэтай камісіі не чыніць ніякіх перашкод. Здаецца, гэты мудры крок займеў свае вынікі, бо непрыемныя сутычкі пачалі сціхаць.

У 1633 годзе ў прывілеі Уладзіслава IV ад 18 сакавіка знаходзім першую згадку пра друкарню ў Мінску. Зацвярджаючы разматыя правы манастыру святых Пятра і Паўла ў Мінску, кароль дазваляе яму мець друкарню «для друкавання ўсялякіх кніг і ўвекавечання ў іх людзей годных як духоўных, так і свецкіх». Аднак жа дасюль бібліяфілы не адшукалі ніякіх царкоўных мінскіх друкаў таго часу.

Пры Уладзіславе IV былі заснаваны ў Мінску тры жаночыя кляштары. У 1633 годзе Войцах Сялява, святар Даравенскі і Нясвіжскі, запісалі ад 4 мая таго ж года паклаў пачатак будаўніцтву касцёла і кляштара бернардзінак па вуліцы Саборнай. Першапачаткова гэта былі драўляныя будынкі. Калі і дзякуючы каму яны набылі цяперашні выгляд, будзе расказана ў аглядзе наступнага перыяду.

Аляксандр Служка, заснавальнік гэтулькіх святыняў на Літве, у 1642 годзе вымураваў у Мінску касцёл з кляштарам для бернардзінак.

Нарэшце, уніяцкі мітрапаліт Антон Сялява перавёў у Мінск каля 1 645 манахінь-базыльянак, якім аддаў царкву св. Духа на Траецкай гары, дзе ў цяперашні час размешчаны гарадскі лазарэт. Кацярына Сапяжанка памножыла яго ахвяраванні, аддаўшы 10 000 злотых на ўтрыманне дзесяцярых дзяўчат-сірот і 9 000— на кляштар.

Важнае значэнне ў гісторыі ўсходняга абраду на Літве і на Русі мела каралеўская прывілея, якой дамагліся запарожскія казакі пасля бітвы пад Зборавам і якая забяспечвала свабоду веравызнання неуніятам. Калі б гэтая прывілея была выдадзена ў іншы час і не дыктавалася жалезнаю неабходнасцю, мы б яе назвалі цудоўным аб'ядначым актам.

Набліжаючыся да канца апісання трэцяга перыяду места Мінска, кіньма вокам на яго «фізіяномію» гэтай эпохі.

Шырока размешчаны на вялікай прасторы ўздоўж ракі Свіслач па абодвух яе берагах, красуецца ён старым замкам, які ўжо страціў сваё абарончае значэнне, але яшчэ годна ўзносіць галаву над драўляным, не густа забудаваным местам, у цэнтры якога дзе-нідзе бялеюць муры каменіцаў. Некалькі грэчаскіх цэркваў прыгожа ўздымаюць да неба зялёныя купалы сваіх вежаў і абуджаюць наваколле магутнымі званамі. Крыху далей страляюць увысь гатычныя вежы каталіцкага касцёла. У адным баку муруюць, у другім абчэсваюць драўляныя сцены новых святыняў і кляштараў. Вурчаць гарадскія млыны і сукнавальні, густа расстаўленыя ўздоўж ракі; шляхецкія і духоўныя дворыкі зеляцеюць вянкамі сваіх сквераў. У крамах бачыш паважныя постаці багатых мяшчан, якія прадаюць шаўковыя рэчы, сукно, махер, палатно, скураны тавар або напоі ў шынках. Тут часта сустрэнеш спрытнага ізраільцяніна, які ўсё больш уціскаецца ў забаронены яму гандаль. За варштатамі бачым рамеснікаў, якіх у Мінску ўжо нямала, а таксама ёсць тут злотнікі, краўцы, шапачнікі, гарбары, ткачы. Але з іх ліку толькі шаўцы (чабатары) маюць сур'ёзны цэхавы закон.

Снуюць вазкі паноў, што прыбылі на трыбунал, важна праходзяць шляхціцы з палашамі, чыноўнікі з торбамі папераў, упэўнена крочаць слаўныя лаўнікі і бургамістры. Бяднейшыя мяшчане здымаюць шапкі перад сваёю паважнаю магістратураю. Там, бачым, ваяводская ахова вядзе ў замак вязня, які самавольна ўцёк адтуль; народ схіляецца з дарогі, баючыся гвалту і зачэпкі з боку дзяржаўных служак. А там, далей, уваходзіць у горад выпраўленая на вайну харугва панцырнай ці мо гусарскай кавалерыі. Коні смаляць па бруку падкаванымі капытамі, жаўнерства гарцуе, рассыпаецца па вуліцах, напаўняе гасподы, вымагае пабораў, падводаў і аброку, галасуе, страляе, б'е мяшчан і жыдоў. Схіляецца перад ёю пакорны мясцовы люд: і сівабароды чарнец, і дамінікан у белай адзежы, і хлапчук у чорнай сярмязе, што на малым коніку ў драбінах прывёз прадаць які карэц збожжа або пару пален дроў, і жыд, якога ўсюды поўна.

А там, на бакавой вуліцы, б'ецца паміж сабою кіямі некалькі дзесяткаў школьнай малечы, кідае каменьмі ў сцены і ў вокны чужых манастыроў, старэйшыя падбухторваюць малых да бойкі або здалёк сочаць за ёю: гармідар кіпіць, раненыя падаюць на вуліцы. Пан возны, выкліканы для расследавання справы, скрупулёзна лічыць раны ў целе, пабітыя шыбы і сляды ад палашоў на варотах.

Жахлівы голад, які ў Інфлянтах і Белай Русі працягваўся аж да жніва 1657 года, адчувальны і тут; папярэднічала яму страшэннае мноства мышэй, якія завяліся на палях, пры платах, у стагах і ў хатах. Люд, сціснуты голадам, вымушаны быў есці ўсё, што траплялася: нават і гэтых, непрыгодных для ежы звяркоў. Пачаліся разбоі з-за кавалка хлеба. Голад, злы дарадчык, як яго назваў Вергілій, не даў нават трупам спакойна ляжаць у трунах.

У 1653 годзе перамога, атрыманая пад Вільняю князем Даўгарукавым над Гансоўскім, аддала Літву ў рукі расіян. Мінск быў заняты непрыяцелем, а мінскім ваяводам па ўказу цара Аляксея Міхайлавіча быў прызначаны Фёдар, сын Юрыя Арсеньева. Недасведчаны ў правах мясцовай шляхты, новы ваявода прымушаў яе будаваць замак і насыпаць валы, выклікаў шляхту да сябе, пасылаючы выціснутыя на воску пячаткі, а калі хто тут жа не прыходзіў, яго звязвалі і прыводзілі да ваяводы сілком. Шляхта вырашыла занесці цару сваю скаргу і з гэтаю мэтаю ў 1656 годзе выправіла ад свае грамады Яна Цадроўскага. Цадроўскі аб сваёй дыпламатычнай місіі піша так:

«Застаў яго вялікасць маскоўскага цара ў Друі над ракою Дзвіною. Ён ішоў з вялікім войскам пад Рыгу. Разам з многімі пасламі Вялікага княства Літоўскага ад розных ваяводстваў і паветаў я цалаваў руку яго царскай вялікасці. Цар ужо сядзеў у карэце. Ён выслухаў мяне, пасля сказаў свайму ганарліваму дыякану Забароўскаму прыняць ад мяне чалабітную. Я быў адпраўлены пад Старую Рыгу, бо нам яго царскай вялікасцю было дазволена па-ранейшаму, г. зн. нашымі законамі, самім судзіцца, і ўся шляхта была вызвалена ад суда ваяводы. Не загадваў нам, шляхце, а ні валоў насыпаць, а ні будаваць замка ў Мінску.

Тое ж самае пацвярджала і грамата, якую я прывёз ваяводу ад яго царскай вялікасці».

Звыклае ў часе войнаў бязладдзе спрыяла насіллю і рабункам. Жыхары навакольных вёсак, паставіўшы на чале якогась Мурашку і абраўшы цэнтральным пунктам мястэчка Камень, у 1657 годзе ўчынялі разматыя самавольствы. Разгромлены яны былі пад Прасовічамі.

У наступным годзе, калі князь Даўгарукі ішоў пад Лагойск, а рускія сілы былі сканцэнтраваны ў Барысаве і яго ваколіцах, у Мінску расіяне раскватараваліся ва уніяцкім кляштары і царкве. Кашталян Кароль Педоскі, сабраўшы з мясцовай шляхты жменьку партызанаў, хацеў з налёту адбіць гэты кляштар. Але, калі замах не ўдаўся, шляхта адступіла, завязаўшы бой пад Каменем Гарэцкім, у якім разбіла аддзел рускай пяхоты. Сам кашталян, ведучы баі, загінуў пад Ваўкавыскам.

У канцы гэтага трэцяга перыяду над Мінскам развяваецца чорная харугва Божай кары: чумы, голаду, вайны і агню, пасля якіх места адрадзілася няхутка. Аднак жа ў наступным перыядзе значна менш сустракаецца гэтакіх няшчасцяў і бедаў.

Такім мы бачым Мінск на працягу ўсяго шаснаццатага стагоддзя ажно да палозы семнаццатага, калі настала рашаючая для старога места гадзіна.

У 1655 годзе вайна з Расіяй набыла жахлівы характар. Шчэрба, Загіеў і Хаванскі занялі ўсю Літву. У Мінск увайшлі казакі, татары і калмыкі, якія распачалі разню, пусцілі агонь... У крыві і попеле загінула большая частка жыхароў, знішчана была большасць дамоў, манастыроў і святынь...

І прыйшоў мор, які цягнуўся больш чатырох гадоў: ад кастрычніка 1653 да студзеня 1658 года. Горад абязлюдзеў, стаў пустэльным, павялічыліся толькі межы могілак — «залюдніліся месты мёртвых».

[Заканчэнне. Пачатак у №№ 29—35.

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ САМАСВЯДОМАСЦЬ: КАМУ ГЭТА ТРЭБА?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

джэння» і «Мова, мастацкае слова, рэлігія». Разам з вядомымі дзеячамі айчыннай навукі: Адамам Мальдзісам, Міколам Ермаловічам, Уладзімірам Конанам, Леанідам Лычом, Зінаідай Мажэйка, Васілём Ліцвінкам, Генадзем КахаНоўскім, Міхасём Піліпенкам — цікава і грунтоўна выступіла моладзь — аспіранты і нават студэнты інстытутаў. Са спецыяльна падрыхтаванымі паведамленнямі прыехалі на канферэнцыю члены маладзёжнай суполкі беларусаў у Маскве «Пагоня». Так, паведамленне будучага юрыста, студэнта Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта Андрэя Алешкі «Нацыянальная самасвядомасць і нацыяналізм» паслужылі штуршком да дыскусіі.



Наш зямляк, вучоны і журналіст доктар Янка Запруднік з Нью-Йорка, які даўно і паслядоўна займаецца вывучэннем беларускай гісторыі, звярнуў увагу прысутных на спрошчанасць падыходу да самога паняцця беларускасці. «У нашых нацыянальных інтарэсах сёння ўстанавіць як мага шырэйшую панараму беларускага грамадства мінулых стагоддзяў, — адзначыў ён. — Яно было катастрафічна звужана да паняцця сялянскасці, мужыцкасці, вясковасці... Як быццам не было ў Беларусі купцоў, духавенства, гарадскога мяшчанства, дваран, нарэшце. Калі мы будзем глядзець на сваю нацыю як на сялянскую, то мы не будзем ведаць вытокаў сваёй дзяржаўнасці. Ведаць жа іх вельмі важна. На беларускую дзяржаўнасць шмат хто яшчэ глядзіць як на байструка гісторыі, як на нейкую анамалію».

...У перапынку паміж секцыйнымі пасяджэннямі я вырашыла правесці невялікі саматужны эксперымент. Удзельнікамі яго сталі жыхары Маладзечна. Іх адказы, як мне здаецца, могуць служыць своеасаблівай ілюстрацыяй да тэмы канферэнцыі і падставай для роздуму.

**Марыя ДЗЯМЕЙКА, прадаўшчыца гароднiны ў мясцовай краме.**

— Вы беларуска?

— Да.

— А ці ведаеце сваю мову?

— Знаю, но зачем она мне, нихто ж не гаворыць.

— І дзеці не вывучаюць?

— Вывучаюць нешта в школе. литературу и письмова.

— Якой будучыні вы хацелі б для дзяцей?

— Не знаю. Лучше уехали бы они отсюда подальше и жили, как живут люди на Западе.

**Фелікс ДЫМ, пенсіянер, былы старшыня калгаса.**

— Скажыце, вы верыце ў Бога?

— Ни в Бога, ни в черта, ни в коммунизм, ни в капитализм, а только в себя.

— А ў Беларусь верыце? У тое, што ў незалежнай дэмакратычнай краіне будзе добра жыцца працавітаму чалавеку?

— При чем здесь незалежность и ваша мова? Интеллигенты паршивые, вы же не знаете, как тяжело хлеб вырастить. Получили незалежность, здрасте, и пустили по миру рабочего человека. Дзякуй вам, дзякуй, дзетачкі.

**Марыя ГАПОНЕНКА, студэнтка музвучылішча.**

— Вы ганарыцеся сваім горадам?

— Я яго проста люблю. Хаця ён мяне, бывае, раздражняе — сваёй неахайнасцю, неўпарадкаванасцю.

— Куды мяркуеце паехаць пасля вучобы?

— Тут буду. Чаму не? Маладзечна ж горадам сонца, хаця і іранічна, назвалі. Можа з цягам часу так і будзе.

— А дзе вы вучылі мову?

— У мяне муж настаўнік у школе, ён са мной размаўляе.

— Чаго вам не хапае ў Маладзечне?

— Ну пра магазіны і побыт я не буду, гэта зразумела. Не хапае зносін з інтэлектуальнымі, адукаванымі, таленавітымі беларусамі, шчыра адданымі справе адраджэння свайго народа, якога трэба выцягваць з п'янства, з забітасці, з духоўнай абмежаванасці.

**Яня СМОЛЬ, работніца гатэля.**

— Колькі вам гадоў?

— Будзе хутка 50. З іх 10 працую ў гасцініцы.

— Які пастаялец зараз у вас у пашане?

— Раней партыйнае кіраўніцтва трымала лепшыя нумары для сваіх людзей. Цяпер у каго грошы — той і кароль. Каралёў жа, бачыце, колькі панаехала з азіяцкага рэгіёна — гандлююць, дзелавыя. А вы па казённых справах?

— Канферэнцыя ў нас міжнародная, навуковая.

— А пра што гаварыць станеце?

— Пра нацыянальную самасвядомасць.

— А што гэта такое? Каму гэта трэба? Нешта я не разумею гэтых вучоных, абы пагаварыць...



А між тым вучоныя розных рангаў і навуковых школ даволі напружана працавалі на канферэнцыі. Акрамя іх, сюды прыехалі выступіць і падзяліцца сваімі думкамі спецыялісты ўсіх галін культуры — — музейныя работнікі, школьныя і універсітэцкія выкладчыкі, бібліятэкары, краязнаўцы. Дзякуючы ім, гэтым сціплым працаўнікам на ніве роднай культуры, запаўняюцца белыя плямы нашай гісторыі, гадуецца і выхоўваецца новае пакаленне беларусаў, якое, напэўна, павінна быць пазбаўлена комплексаў «непаўнацэннасці», «абыякавасці» і «бальшавізму».

Знаёміцца з такімі людзьмі заўсёды цікава і карысна: лепш бачыш рэальную карціну жыцця, разумееш праблемы і запатрабаванні тых, каго мы чамусьці саромеемся называць народам.

Вольга Мароз, дырэктар Карэліцкага краязнаўчага музея, гісторык па адукацыі, паведаміла, што іх культурная ўстанова ўжо чацвёрты год на рамонце, таму што не хапае сродкаў давесці ўсё да ладу. Чатыры тысячы адзінак музейных экспанатаў надзейна схаваны ў скрыні. На месцы старой гістарычнай забудовы ўзведзены стандартны Дом культуры. А сам краязнаўчы музей знайшоў сабе прытулак на яўрэйскіх могілках. Хіба не тыповая карцінка нашай мілай правінцыі, дзе занядбана нават такая нядаўняя гісторыя і дзе зніверліравана ўся адметнасць мясціны, некалі славутай сваёй ткацкай мануфактурай, выдатнымі народнымі майстрамі. Забыліся нават на тое, што ў Карэлічах у час Вялікай Айчыннай вайны былі знішчаны ў гета ўсе яўрэі, якія стагоддзямі жылі побач з беларусамі, гандлявалі, абшывалі і абувалі мясцовы люд. Цяпер у Карэлічах няма ні аднаго чалавека яўрэйскай нацыянальнасці. Якое культурнае жыццё могуць мець сённяшнія жыхары былых Карэлых Лычоў, зашыўшыся па сваіх кутках і ўткнуўшыся ў тэлевізар? Якую нацыянальную самасвядомасць і годнасць могуць выхаваць у людзей безаблічная архітэктура і жабрацкія бібліятэкі? Адказаць на гэтыя пытанні вельмі проста — ніякай.

Але сёння мы апынуліся ў сітуацыі, калі «на карту свету ўзышоў беларус». Беларусь, як незалежная і невядомая дзяржава, прыцягальная для заходняга свету: навукоўцаў, бізнесменаў, палітыкаў. Нездарма на канферэнцыі прысутнічалі вучоныя з Аўстрыі, ЗША, Швейцарыі, Германіі, Англіі.

Герман Бідэр, мовазнаўца, славіст, дацэнт, выкладчык Зальцбургскага універсітэта, выдатна размаўляе па-беларуску. Ён, дарэчы, у арыгінале чытаў Статут ВКЛ, старажытныя летапісы, палемічную старабеларускую літаратуру і мае глыбокую пашану да беларускага народа. Сустрэчы і знаёмствы з вядомымі беларускімі вучонымі на канферэнцыі, абмен думкамі, трэба меркаваць, дапамогуць Герману Бідэру дапісаць распачатую ім цікавую і змястоўную кнігу пра культурнае адраджэнне Беларусі. Адно ён пашкадаваў, што параўнаўча мала было дакладаў па мовазнаўству, не пачуў ён і аўтарытэтных лінгвістаў.

Герман Бідэр, прынамсі, меў магчымасць пераканацца ў тым, якое неадназначнае стаўленне існуе ў нашым грамадстве да беларускасці. Ён з асалодай размаўляў з мінчанамі на іх роднай мове. Па яго словах, адным гэта вельмі імпанавала, а другія ўспрымалі нават агрэсіўна. «З таго я раблю выснову, што беларуская мова і культура ў небяспецы».

На прэс-канферэнцыі для журналістаў былі падведзены вынікі двух дзён работы больш чым 100 вучоных з розных краін свету. Члены аргкамітэта адзначылі: канферэнцыя паказала, што навукоўцы маюць «задзел», навуковыя абагульненні вопыту гісторыі па праблеме нацыянальнай самасвядомасці беларусаў і гатовы прадставіць навуковыя рэкамендацыі дзяржаўным і грамадскім арганізацыям, партыям і рухам.



На пытанне, якія думкі выклікала канферэнцыя, доктар Янка Запруднік адказаў эмацыянальна і канструктыўна:

— Прайшоўшая ў Маладзечне канферэнцыя ёсць тэматычная рэвалюцыя ў галіне беларусаведы. Тэмы, што разглядаліся тут, бадай, упершыню прагучалі на міжнародным форуме: пытанне менталітэту беларусаў, пытанне нацыянальнай ідэі, пытанне нацыянальнага характару, праблема выжывання беларусаў у новых палітычных умовах. Гэта пытанні стратэгічна важныя. Сам факт абмеркавання іх з удзелам вучоных цэлага свету, у тым ліку і беларускага замежжа, думаецца, ёсць гарант таго, што мы нарэшце дакрануліся да ядра праблемы нашага існавання. Скарына казаў, што пазнанне самога сябе — вышэйшая мудрасць.

Пазнанне сябе адбываецца тады, калі ставяцца кардынальныя, цэнтральныя пытанні, падобныя да тых, што разглядаліся на канферэнцыі. І разгляд такіх пытанняў — гэта працэс вертыкальнага яднання беларускай нацыі з мінулымі стагоддзямі. Нацыя павінна быць з'яднана і гарызантальна: геаграфічна — тое, што мы цяпер бачым: людзі свабодна прыязджаюць у Беларусь, беларусы едуць да землякоў у розныя канцы свету. Павінна адбывацца яднанне вертыкальнае, мы павінны ісці ў глыбіню стагоддзяў — да Ефрасінні, Сімяона Полацкага, да гэтых волатаў духу, якімі наша зямля, наш народ павінны мацавацца, таму што пагроза занепаду вялікая. Мы нарэшце дабраліся да гэтай скарбніцы мінуўшчыны. Ёсць надзея, што выратуемся.

Таццяна АНТОНАВА.

**НА ЗДЫМКАХ: сустрэча ўдзельнікаў канферэнцыі на маладзечанскай зямлі. На першым плане Н. ГІЛЕВІЧ і В. БЫКАЎ; прафесар Герман БІДЭР з Аўстрыі гутарыць з калегамі-навукоўцамі; доктар Янка ЗАПРУДНІК прыехаў з ЗША для ўдзелу ў канферэнцыі.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*НАТАТКІ З ВЫСТАЎКІ МІХАСЯ РАГАЛЕВІЧА*

# ЗНАЙСЦІ НА ЗЯМЛІ ЧЫСЦІНЮ



Гляджу на яго карціны позіркам чалавека, які трошачкі стаміўся ад мітусні нашага жорсткага жыцця, ад хамства ў трамваях і чэргах, ад злосці сваёй і людской. Гляджу і адчуваю, што на душы становіцца лягчэй. Цеплыня іх растапляе лёд у сэрцы і прымушае зразумець, што свет быў створаны чыстым. Бруд у ім — ад нас.

Самае запамінальнае на карцінах Міхася Рагалевіча—фарбы, надзвычай яркія, сакавітыя. Калі ж паглядзіш усе карціны на выставе ў Палацы мастацтва, ствараецца ўражанне, што пісаў іх жыццярадасны, амаль шчаслівы чалавек. І вельмі хочаш пабачыць мастака, які знайшоў-такі ў жыцці радасць.

Чакаеш спаткаць рухавага эмацыянальнага чалавека, а бачыш вельмі паглыбленага ў сябе, удумлівага мастака, які становіцца жвавым, калі гаворыць пра свае карціны. Міхась Вікенцьевіч кажа, што любіць іх усе вельмі, думае заўжды пра тыя, што ўжо напісаны і пра тыя, што наперадзе.

Напісаны ім цудоўныя пейзажы беларускай прыроды «Сімфонія вясны», «Беларуская калыханка», «Цвіценне». Зямля на іх—у найвялікшай радасці ад таго, што яна жыве, што наступае вясна, лета. Фарбы, удала падабраныя, ствараюць гармонію колераў і адценняў.

Цікавая гама адценняў на карціне «Вераснёвы ранак». Адчуваеш усім сэрцам, што прырода ўжо рыхтуецца да зімовага сну. Тут няма трагедыі, ёсць заканамернасць. Ціхае сонейка ўзыходзіць і асвятляе панадворак сарамлівымі промнямі. На ім жанчыны, якія спяшаюцца ўправіцца з гаспадаркай. Праца іх звычайная, простая. Аднак калі глядзіш на карціну, абуджаецца шчаслівае пачуццё любові да гэтй роднай прастаты. Мастак жа дадае:

— Я сапраўды пішу карціны чыстымі фарбамі. І тэмы палотнаў немудрагелістыя. Мне здаецца, гэта якасці менавіта беларускай прыроды, людзей—прастата, чысціня.

Ад карцін застаецца ўражанне вялікай, зробленай мастаком працы. Жывапіс, графіка. А калі даведваешся, што выстава прымеркавана да 60-годдзя Міхася Рагалевіча, хочацца павіншаваць яго з ёю, другой у яго жыцці. Гэта менавіта так. Жыццё не песціла гэтага чалавека, нават наадварот. Нарадзіўня ён на Уздзеншчыне ў вёсцы. Яму не было і года, калі бацьку забралі як кулака (у сям'і было 2 каровы і кабыла), потым расстралялі.

Маці з немаўляткам выслалі на поўнач (Міхасю было 9 месяцаў). Пасля ссылкі яны жылі ў Бабруйску:у родныя мясціны вяртацца не дазвалялі. У 37-м годзе маці забралі зноў, а Міхася накіравалі ў дзіцячы дом. Вярнулася яна ўжо пасля вайны. Пажыла з хлопчыкам каля года. Пасля трэцяй высылкі—не вярнулася.

Я слухала Міхася Вікенцьевіча і думала пра чалавечую сілу. Адкуль у яго адчуванне радасці жыцця пасля ўсяго перажытага? І хто выкажа страшэнны боль яго і жанчыны, што згубіла мужа, якую адарвалі ад роднага дзіцяці? Хто выкажа тугу зямлі, якая можа быць такой красуючай, такой святочнай, як на карціне мастака «Красуйся і ў шчасці жыві»? Хіба што вочы, вочы той пакутлівай жанчыны, якую так нядоўга называў мастак сваёй маці. Яны, засмучоныя і пяшчотныя, глядзяць з карціны, напісанай вугалем «Матуля мая». А якія трагічныя матывы «Маці і дачка з кветкамі», «Успаміны», «Навала». Хто мог прыдумаць нешта больш дзікае: адабраць у жанчыны сэнс яе існавання—дзіця і выслаць яе на чужыну выкупляць грахі, якіх яна не рабіла. А потым яе рэабілітаваць.

Міхась Вікенцьевіч гаворыць пра лёс маці спакойна. Толькі вочы выдаюць яго боль. Ён незагойны. Мастак хоча знайсці ў архіве справу свайго бацькі, даведацца дакладна пра злачынства, над ім учыненае.

Ужо прызнаны прафесіяналізм і своеасаблівсць мастака Міхася Рагалевіча. Аднак, як я пісала вышэй, глядач бачыў яго карціны да крыўднага мала. У самога ж яго ўмовы для творчасці з'явіліся не так даўно. Справа ў тым, што толькі летась ён атрымаў майстэрню. Праўда, некалі давалі яму месца для работы, якое ён падзяляў, як потым аказалася, з несумленным чалавекам. Міхась Рагалевіч мог там толькі захоўваць свае карціны

Калі я шукала Міхася Вікенцьевіча, а мне адказвалі, што ён на працы, я запыталася: «А дзе ён выкладае?» Не здагадвалася, што пытанне маё гучыць амаль смешна. Рагалевіч да мастацкага вучылішча працаваў фармоўшчыкам у ліцейным цэху. Праз некалькі год пасля заканчэння вучобы ўладкаваўся ў Інстытут фізікі мастаком-афарміцелем. Там працуе і па сённяшні дзень. З гэтай прычыны сярод работ мастака так шмат партрэтаў вучоных.

Здавалася б, калі ўжо не знайшлося для Міхася Рагалевіча іншай працы, як у інстытуце, можа хоць зараз пайсці на адпачынак: узрост пенсійны. Ён так не лічыць. Трэба на нешта жыць, пенсіі не хопіць. Тым больш, што матэрыял для жывапісу каштуе грошай. А карціны не прадаюцца. Думаю, па-першае, таму, што іх не бачаць. Па-другое, Міхась Вікенцьевіч не любіць прадаваць карціны, хоць ведае, што гэта нармальная з'ява. Ён нават кажа, што размаўляе з імі. З кожнай з іх звязаны пэўныя хвіліны жыцця, кожнай аддадзена частка душы. А карціна «Пра час і пра сябе» жыла ў думках мастака аж 20 год. Праблемы чалавецтва паказаны мастаком праз прыроду. На гэтай філасофскай карціне—рака, высокія берагі. Неспакойнае неба (чым не чалавечы лёс), на ім—чорныя хмары, раптам нечаканы прасвет і зноў чарната. Адно дрэва не вытрымлівае націску ветру, згінаецца, гатовае ўпасці. Побач другое дрэўца. Яно нібы падтрымлівае першае. Добра, што яны апынуліся побач. Карціна пакідае надзею, як і большасць прац мастака, жыццё якога не заўсёды было сугучна ім. Ці не былі яны барацьбой з лёсам?! Вось што сказаў на гэта Міхась Рагалевіч:

— У жыцці хапае бруду. У ім нельга заўсёды жыць. І думаць пра яго нельга заўжды. Хочацца на Зямлі знайсці светлае. Мяне хвалявала і хвалюе прыгажосць прыроды, чалавека. Мэта маёй творчасці—знайсці чысціню. І ў мяне гэта часам адбываецца.

**Алена СПАСЮК.**

**НА ЗДЫМКАХ: карціны М. РАГАЛЕВІЧА «Успаміны» і «Пра час і пра сябе».**

*З ГІСТОРЫІ ЧАРНОБЫЛЬСКІХ ВЁСАК*

# «ШЛЯХТА З ШАПАТОВІЧ»

Вёскі Шапатовічы (Чачэрскі раён) ужо няма. Чарнобыльская бяда была для яе асабліва бязлітаснай: радыеактыўнае забруджванне цэзіем-137 складае тут 73 кюры на квадратны кіламетр... Засталася толькі памяць аб прыгожым, шматлюдным у мінулым населеным пункце. Засталіся яшчэ і наступныя цікавыя факты з гісторыі Шапатовіч, якія мы тут абагульняем.

Дагэтуль жыхары некаторых чачэрскіх вёсак памятаюць старадаўнюю «калектыўную мянушку», якая датычылася карэнных шапатоўцаў—шляхта. Няхай гэтае абазначэнне і адышло ў мінулае, пытанне ўсё роўна застаецца: а чаму менавіта шляхта?

І. Насовіч, аўтар «Словаря белорусского наречия», адлюстраваў у сваёй лексікаграфічнай працы тое значэнне слова шляхта, якое было распаўсюджана ў другой палове XIX стагоддзя, — «саслоўе дробных дваран». Аднак у папярэднія часы слова шляхта не было такім адназначна простым. Шляхтай увогуле называлі прывілеяванае саслоўе ў Вялікім княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай. Шляхта фарміравалася як закрытае саслоўе, доступ у якое быў магчымы толькі ў выключных выпадках, напрыклад, праз так званую набілітацыю (наданне шляхецтва каралём, сеймам або гетманам на полі бою) ці адопцыю (прыём у геральдычны род прадстаўнікоў іншых саслоўяў або ўсынаўленне шляхціцам няшляхціца).

У Вялікім княстве Літоўскім асноўная маса феадалаў у XIII — першай палове XVI стагоддзяў называлася **баярамі.** **Гэта была тая ж** шляхта, што і ў Польшчы. Вялікія князі юрыдычна замацоўвалі і пашыралі правы баяр - шляхты на ўзор прывілеяў шляхты ў Польшчы. Шляхціцы, напрыклад, вызваляліся ад дзяржаўных павіннасцей, акрамя вайсковай службы і невялікага зямельнага падатку. Ім гарантавалася асабістая і маёмасная недатыкальнасць, магчымасць займаць дзяржаўныя пасады. Шляхціцы вызваляліся ад работ на карысць вялікага князя, акрамя будаўніцтва і рамонту замкаў.

Пасля Люблінскай уніі 1569 года шляхта Вялікага княства Літоўскага стала часткай шляхты Рэчы Паспалітай, неўзабаве правы шляхціцаў Вялікага княства і Польшчы былі ўраўнаваны. У Рэчы Паспалітай шляхта панавала, а сама краіна ў XVI — XVIII стагоддзях была шляхецкай рэспублікай. Праўда, у асяроддзі шляхты існавала значная маёмасная няроўнасць. Шляхта падзялялася на **магнатаў,** якія валодалі вялікімі зямельнымі надзеламі і займалі самыя важныя дзяржаўныя пасады, **сярэднюю шляхту,** якая валодала адной ці некалькімі вёскамі, **ваколічную, ці загродавую шляхту,** якая мела сваю гаспадарку, але не мела сялян, і **шляхту-галоту,** якая не мела сваёй зямлі і жыла пры магнацкіх дварах у якасці слуг.

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай частка шляхты былога Вялікага княства Літоўскага атрымала правы дваранства.

Якая ж шляхта жыла ў Шапатовічах? Думаецца, што гэта была ваколічная (загродавая), якая сама апрацоўвала зямлю. У статыстычным даведніку «Список населенных мест Могилевской губернии», выдадзеным у 1910 годзе ў Магілёве пад рэдакцыяй Г. Пажарава, адзначана **ваколіца Шапатовічы** Дудзіцкай воласці Рагачоўскага павета (105 двароў, 357 жыхароў мужчынскага полу і 308 чалавек жаночага полу). Ваколіца — тып пасялення, які разам з мястэчкам, фальваркам і засценкам з'явіўся на тэрыторыі Беларусі ў XV — XVI стагоддзях. У ваколіцах, якія размяшчаліся побач з вёскамі і абгароджваліся, якраз жыла шляхта **(ваколічная, загродавая).** Шапатовічы ўзніклі побач з вёскамі Сябровічы, Халочча, Дудзічы, Ліпа. У пачатку XX стагоддзя ваколіца Шапатовічы належала Драбышэўскім і іншым уладальнікам — праваслаўным і католікам (у даведніку астатнія прозвішчы не згадваюцца), у распараджэнні якіх было 1 059 дзесяцін ворнай зямлі і 206 дзесяцін няўдобіц.

Нам удалося знайсці і амаль што самыя першыя звесткі пра Шапатовічы ў «Інвентары Чачэрскага староства» за 1726 год. У гэтым дакуменце Шапатовічы згадваюцца ў ліку 15 так званых «баярскіх» вёсак (баяры — тыя ж шляхціцы, гл. вышэй). У 1726 годзе ў Шапатовічах налічвалася 7 «дымоў» (двароў), якія плацілі 220 злотых гіберны (так называўся дзяржаўны падатак у Рэчы Паспалітай у разглядаемы час).

На заканчэнне прааналізуем назву самой вёскі — **Шапатовічы.** У «Інвентары Чачэрскага староста» 1726 года найменне пададзена ў форме **Шепетовичи.** У аснове геаграфічнага імя ляжыць мянушка **Шапета, Шапота.** Гэтае апошняе імя ўтварылася ад слова **шапатаць, шапацець: Шапета, Шапота** — «той, хто шапоча, ціха гаворыць (?)». Не выключана, што **Шапота, Шапета** — гэта «той, хто шапялявіць» (гл.: М. Бірыла, Беларуская антрапанімія. — Мн., 1969, с. 466—467). Чалавек, які насіў такую мянушку, быў заснавальнікам вёскі. Яго нашчадкаў сталі называць **шапятовічамі, шапатовічамі.** А гэтае абазначэнне і стала па асацыяцыі найменнем месца пражывання нашчадкаў Шапеты, Шапоты. Так і ўзнікла геаграфічная назва **Шапатовічы.**

Неабходна сказаць, што вёска Шапатовічы з'явілася не абавязкова ў пачатку XVIII стагоддзя, калі яна ўпамінаецца ў «Інвентары Чачэрскага староства». Увогуле геаграфічныя імёны на **-ічы** ў XVIII стагоддзі амаль не ўзнікалі, час іх найбольшай прадуктыўнасці — да XVI—XVII стагоддзяў (нагадаем яшчэ раз, што ваколіцы з'яўляліся з XV стагоддзя). Таму цалкам магчыма, што баяры-шляхціцы, якія валодалі 7 «дымамі» ў Шапатовічах у 1726 годзе, былі не першымі жыхарамі населенага пункта.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ.**

# крынічка

**ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ ЗА ТВОРЫ, НАПІСАНЫЯ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ, СТАЛА УЛАДАЛЬНІЦАЙ МІЖНАРОДНАГА ГАНАРОВАГА ДЫПЛОМА ІМЯ Х. К. АНДЭРСЕНА. НЯДАЎНА ПРЫЙШЛА ДА БЕЛАРУСКІХ ХЛОПЧЫКАЎ І ДЗЯЎЧЫНАК НОВАЯ КНІЖКА ПАЭТЭСЫ «РЭЧКА, РЭЧАНЬКА МАЯ», ДЗЕ Ў ДАСТУПНАЙ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ ФОРМЕ ЎЗНІМАЮЦЦА ПЫТАННІ, ЗВЯЗАНЫЯ З ВЫХАВАННЕМ, ПАВОДЗІНАМІ МАЛЫХ. ЁСЦЬ У КНІЖЦЫ І НАРОДНЫЯ ПРЫСЛОЎІ, ЖАРТЫ, СКОРАГАВОРКІ. У НАШАЙ «КРЫНІЧЦЫ» ДРУКУЕМ НЕКАТОРЫЯ ТВОРЫ З КНІЖКІ ПІСЬМЕННІЦЫ.**

## — ПРАЎДА, ЯК СОЛЬ У ВОЧЫ!— ЦІШКА АДРАЗУ ЎСКОЧЫЎ

Прыехала ў госці бабуля да нас
З далёкага Броду, з Чырвонага Броду.
Прывезла дарункаў вясёлы запас —
І белых грыбочкаў, і сала, і мёду,
Нам кожнаю раніцай пекла бліны,
Якія ж на кухні ўзвышаліся горкі!

...Ды толькі чамусьці бліжэй да вясны
Саромецца сталі вясковай гаворкі.
Мёд злізалі, сала з'елі
І адразу засвінелі!
— Ты, бабка, не гэтак гаворыш, не так! —
Зірнула бабуля з усмешкай нязменнай:
— Ты мовы дзядоў не цурайся, лайдак!
Глядзела я сшыткі твае.
Непісьменна!

А я неразумных пакеплівых слоў
Ніяк ад унукаў сваіх не чакала!
Ты ведай:
на мове бяроз, каласоў
Я некалі татку твайго калыхала.
І ўсё было гэтак, і ўсё было так!..

Я слухаў, маўчаў,
чырванеў, як бурак.

## МОЙ НОВЫ ДРУГ

Спалоханы нечым,
прамчаўся ён міма.
Імчаўся, вяртаўся. Шукаў ён каго!
І ўспомніў я кнігу пра Белага Біма
І чорнае-чорнае вуха яго.

І ў гэтага Біма сірочыя вочы —
Сумуюць, сумуюць па доме былым.
І есці чужых пачастункаў не хоча
Галодны і рыжы, нястрыжаны Бім.

Кавалачак сала
падкінуў прахожы,
Сабака не гляную.
Пабег, пакульгаў.

Пячэння не ўзяў у дзяўчынкі прыгожай.
Я свіснуў працягла,
і раптам ён стаў.

Каго нагадаў я і смехам, і свістам!
Руку ён лізнуў і кіўнуў галавой.
Сказаў я:
— Ты будзеш здаровым і чыстым,
Самотным-маркотным не будзеш са мной!

Сабаку адмыў і падстрыг акуратна,
Карміў як належыць:
— Ачуньвай, браток!
Са мной па сцяжынках ён бегаў выдатна,
Два дні весяліўся,
на трэці... уцёк!
Свісцеў я і клікаў.
Вось гэта навала!
Навошта пабег! Да якога двара!
А можа, сабаку майму нестavала
Былога і лепшага гаспадара!

Хадзіў я далёка — налева, направа,
І мне памагала каманда хлапцоў,
Расклейвалі з просьбай трывожнай
аб'явы...

Два тыдні шукаў.
Не знайшоў, не знайшоў!

Аднойчы, пад вечар дажджлівы і шэры,
Вушам і вачам не паверыў сваім —
Кароткімі лапамі стукаў у дзверы
Галодны і рыжы, нястрыжаны Бім!



Сябры.

## РЭЧКА, РЭЧАНЬКА МАЯ

Я не хачу, каб рэчка высыхала,
Дзе чую ўсплёскі рыбак залатых,
Дзе човен скача ля свайго прычала,
Калі бягу па травах лугавых;

Дзе лёд зімой іскрыцца ў сто вясёлак
І дзе бушуе ўвесну крыгаход.
Плыві, рака, паміж бароў вясёлых,
Каб зелянелі сосны круглы год!

Каб жаўранак гукаў вясну і лета
І не кранула птушачку бяда!
Каб не знікала з нашай студні светлай
Сцюдзёная і смачная вада!

Я не хачу, каб цінай безгалосай
Заплеснеў бераг, на якім стаю.
Прашу людзей, прашу я ўсіх дарослых:
— Абараніце рэчаньку маю!

Я падрасту і вам дапамагу —
І рыбкі залатыя зберагу.

## СКОРАГАВОРКІ

### ВОКА АБІБОКА

Белыя аблокі
Падплывалі збоку,
Адбіліся глыбока
У азёрным воку,
Не былі аблокі
Ў воку абібока.

### ВЯТРАМІ ПАДШЫТЫ

Дажджамі пакрыты,
Вятрамі падшыты
У грака пінжак.
Крычыць на грачыху,
Грачыху-краўчыху
Прастуджаны грак.

### КРОПЛЯ З КРОПЛЯЙ

Кропля з кропляй размаўляе,
Кропля кроплю падганяе:
—Ты скачы праз плот,
Абмінай асот!
Прагнуць працы буракі,
Кроп, і рэпа, і гуркі!

### ЛЯНІВЫ-САНЛІВЫ

Лянівы санліваму кажа: — Не позна.
Санлівы лянівaму кажа: — Марозна!
Лянівы санліваму: — Дзе мае ноты!
Санлівы лянівaму: — Эй, ты лянота!
Санлівы-лянівы,
Лянівы-санлівы!



Лета.

# МАЦІ

### КАЗКА

Раней звычайнага прачнуўся ўнук і падышоў да мяне. Я адчыніў акно і адчуў непаўторны пах раніцы.

— Паназірай, як пачынаецца новы дзень,—кажу яму.

Мы моўчкі глядзім у акно: над вёскаю ўздымаецца такое чырвонае сонца, што, здаецца, яго густы колер вельмі цяжкі і яно не мае сілы ўзняцца вышэй. Зямля прасыналася і клікала да працы, да дзейнасці.

Жвавыя вераб'і выскачылі з-пад страхі, заўзята чырыкалі, відаць, раіліся, з чаго пачынаць працоўны дзень. Праляцеў бусел з галінкаю ў дзюбе на рамонт свайго жытла.

На вішні сядзіць сарока і цікуе на квахтуху з куранятамі, паварочваецца ў розныя бакі і думае: «Няхай адыдуцца далей. Можна будзе і паласавацца».

Белая мажная курыца паквохкала, і вывадак дробных жоўценькіх клубочкаў пакаціўся да яе. Маці стала, пaглядзела на сваіх выхаванцаў і, відаць, пераканаўшыся, што ўсе ў зборы, першая ля сабачай будкі пайшла з двара, а кураняткі за ёю. Мурза, чорны невялікі разумны сабачка, лежачы ў будцы, правёў іх уважлівым позіркам і ціха заскуголіў, што азначала: гуляйце. Калі што, я прыбягу на дапамогу. Квахтуха яго зразумела, таму адказала: кок, кок—значыць: «дзякуй, слухай, калі што». І павяла сваіх дзетак на поле за хатаю.

Тут куранятніца паграбецца, пакліча сваіх выхаванцаў: ко-ко-ко. На яе голас кураняткі дружна прыбягуць, пацікавяцца, чаго яна іх клікала, і зноў разбягуцца ў розныя бакі.

«Сонца ўжо высока, час і дамоў вяртацца, — падумала і глянула ўгару. — Бяда!»—заўважыла яна: над імі кружыўся каршун, таму яна моцна закрычала: ко! ко! ко!

Кураняткі дружна кінуліся да маці. Толькі адно, самае меншае, спатыкнулася на ямцы і павалілася.

Каршун склаў крылы, каменем падаючы на зямлю, бачыў, дзе варушыцца кураня.

Маці заўважыла небяспеку і з моцным лямантам кінулася да таго куранятці, усе астатнія—за ёю. Як толькі дабегла, раскрыла крылы і схавала яго. Уся сямейка хутка залезла пад крылы маці.

— Дзеду! Я пабягу абараню іх,— прапануе ўнук.

— Не варта, каршун не арол. Курыца сама абароніцца,—адказваю.

Каршун стаў на ўвесь свой рост, выгнуў шыю дужкаю, узняў крылы ды кажа: «Аддай мне тое малое. Тады пакіну цябе ў спакоі».

«Ко! Ко! Ко! — гучна адказала квахтуха і выцягнула шыю, гатовая да змагання. — Не дам! Шукай сабе ахвяру ў іншым месцы».

Каршун падскочыў на месцы і выгукнуў:

— Калі не аддасі, дрэнна табе будзе і ўсім тваім малым.

— Ніякая маці сваіх дзетак на згубу не аддае.

— Ды яно ж нейкае нягеглае. Якая табе карысць з яго,—не адстае ён. — У мяне дзеткі галодныя.

— Ты яшчэ і страшыш!—моцна выгукнуў ён, скокнуў да курыцы і дзеўбануў яе ў галаву.

— Уцякай! А то паклічу нашага сабаку. Тады даведаешся, па чым фунт ліха,— прамовіла яна.

Куранятніца, не падымаючы крылаў, пад якімі ціха сядзелі яе дзеткі, каб не раскрыць іх, як закрычыць:

— Ко! Ко! Ко!

Каршун падскочыў, хацеў яшчэ напасці, але з двара з тонкім галаском: «Гаў, гаў, гаў!» выбегла Мурза і бягом да месца барацьбы. Каршун быў пільным, заўважыў небяспеку, скоса глянуў на курыцу, падскочыў, замахаў крыламі, узняўся ўвысь і закружыў над месцам здарэння.

Курыца, апусціўшы крылы і галаву, з якой капала кроў, павольна ішла ў свой дор, Мурза за ёю. Кураняткі першымі бадзёра беглі навыперадкі, толькі тое малое, якое выратавала маці, сумна паглядала на маці, ідучы поруч.

— Мама! Табе моцна баліць?—пытае яно.

— Тое меншае кураня найбольш спагадлівае,—перарваў нашае маўчанне ўнук.

**Яўген КРАМКО.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1559.
Падпісана да друку 31.08.1992.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12